# РЫХТУИЦЕСЯ ДА ЛЕТА.

Дзеля таго, каб з самага пачатку зімы быць падрыхтаванымі да працы ўлетку, неабходна да яе рыхтавацца зараз-жа. „Рыхтуй сані летам, а калёсы зімой“,— кажа мудрая народная пагаворка.

Піонэры павінны памятаць, што лета зьяўляецца найбольш спрыяючай парой для нашага аздараўленьня. Правільна выкарыстаўшы летняе паветра, сонца і ваду, мы можам значна паправіць сваё здароўе, якое шмат хто за час работы і вучобы зімой патраціў.

Для сталай пасьпяховай работы па аздараўленьню трэба мець пэўнае абсталяванае месца, дзе можна было-б займацца фізкультураю, гульнямі і г. д.

Такім месцам павінна быць піонэрская летняя пляцоўка. Ніводзін атрад не павінен быць бяз летняй пляцоўкі. На арганізацыю яе ня прыдзецца патраціць вялікіх выдаткаў і шмат сілы.

З 1-га красавіка ніводзін атрад не павінен праводзіць сваю працу ў памяшканьні. Усе заняткі атраду павінны быць на сьвежым паветры. Да пляцоўкі трэба выкарыстаць любы кавалак зямлі, сада, зялёнага лужка і г. д.

Атрад можа лёгка зрабіць пляцоўку, калі ён зараз-жа прадумае ўвесь плян падрыхтоўкі. Для гэтага трэба параіцца з доктарам і бацькамі. У гэтым годзе, як і ў мінулым, у летні пэрыод перад піонэрамі ставіцца адна з галоўнейшых задач—*аздараўленьне*. Пляцоўка павінна мець належнае для заняткаў абсталяваньне і быць чыстай. Трэба зараней падабраць патрэбныя гульні, мячы, кракет і г. д.

Падрыхтоўка да лагераў павінна пачацца ў атрадах зараз-жа: трэба падвесьці вынікі лагераў мінулага году і падумаць аб сродках для іх, памятаючы, што шмат залежыць ад нас саміх. Для дапамогі лагерам трэба прыцягнуць сваіх бацькоў. Дзеля гэтага савет атраду наладжвае спэцыяльны сход бацькоў і дабіваецца дапамогі з іх боку (грашыма). Вопыт лагераў мінулага году паказаў, што яны значна спрыяюць папраўленьню і аздараўленьню дзяцей.

Ужо цяпер атрад павінен падумаць аб экскурсіях і пагулянках за горад, колектыўных купаньнях і іншых цікавых і карысных формах фізычнага загартоўваньня організму. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, каму з піонэраў і ў якой меры можна займацца фізкультурай.

Частка дзяцей патрабуе спэцыяльнага санітарнага лячэньня, для часткі дзяцей даволі будзе работы ўлетку на пляцоўцы і, нарэшце, частка дзяцей, найбольш слабых, выедзе ў лагер.

Савет атраду павінен зараз-жа рыхтавацца да мэдыцынскага агляду піонэраў, прыцягнуць да гэтага доктара, бацькоў і інш.

*Ніводзін піонэр улетку не павінен застацца без адпачынку і неабходнага яму лячэньня.*

Вось чаму задачаю кожнага атраду зьяўляецца—цяпер-жа распачаць падрыхтоўку да летняй працы ў лагерах і на пляцоўках.

**Я. С.**

## ЗЬМЕСТ.



**Вокладка.**






Мастацкая аздоба і малюнкі **Я. Кашкеля.**

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 3 м-цы . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.
„ 12 „ . . . 2 р. 40 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25

**№ 7** **КРАСАВІК** **1927 г.**



**Нацыянальна-вызваленчы рух** у Кітаі ахапіў сабою амаль што ўсіх рабочых і сялян Рэволюцыйная армія ў апошні час выгнала буржуазных генэралаў з **Шанхаю** (самы буйны прамысловы горад) і **НАНКІНА**. У сувязі з такім посьпехам рэвол. арміі чужаземны капітал (Англія, Амэрыка, Японія) дужа занепакоіўся за свой лёс у Кітаі і пачынае са зброяй умешвацца ў справы Кітая. На малюнку: дэмонстрацыя рэволюцыйных рабочых.




*Апавяданьне Арцёма Вясёлага.*

I.

На рагу двух глухіх завулкаў стаяў стары трухлявы дом. Пахмура і няпрыветна пазіраў ён сваёю вялізарнай, нізка падвешанаю над дзьвярыма шыльдаю „Шынок і Драпо". Цэлы дзень было ціха ў ім і толькі ўвечары і ўночы ажыўляўся шынок. Агульны пакой напаўняўся шумам і п'яным гоманам прыяжджаючых гасьцей. Хлопалі коркі адаткнёных бутэлек, крычалі і рагаталі п'яныя, зьвінела начыньне. Гаспадыня шынка, Агатаўна, спрытна бегала, аддаючы загады служкам.

II.

Прыбыткаў, якія даваў шынок, Агатаўне здавалася мала, і яна з літасьці прытуліла ў сваім доме каля дзесятка бяспрытульных дзяцей. Ужо з самага раньня ахмістрыня, старая Ларывоніха, выводзіла іх з дому і рассаджвала па вуліцах гораду. Увесь доўгі дзень пад дажджом і сонцам, поўзаючы па тратуарах, лавілі дзеці за ногі падарожных і прасілі на розныя галасы: „Міленькія, даражэнькія, пашкадуйце...—Кавалачак х'епа...—Тры дні"... І так цэлы дзень. Тут-жа каля іх круцілася Ларывоніха і пільна сачыла, каб яны як-небудзь не патрацілі сабраных грошай. А то і спынялася каля аднаго з дзяцей, войкала і і прыгаварвала: „Канае дзіцянё, пашкадуйце, ад голаду духі падцянула"... Каля распластанага на тратуары маленькага цела застанаўліваліся падарожныя і некаторыя з іх кідалі грошы.

У Агатаўны быў заведзены строгі лад. Увечары на чале з Ларывоніхай прыходзілі дзеці дамоў. Іх старэнна ператрасала сама Агатаўна, адбірала ўсё, што выпрашвалі яны за дзень, совала кожнаму ў руку маленькі кавалачак хлеба і, надаваўшы „шляпунцоў" і „аплявух", адпраўляла ўсіх спаць на цёмную гару.

III.

Сярод „дзетак" Агатаўны быў кітайчык Ліу-Сім-Хай. Цямлівы і спрытны, як малпачка, ён цэлымі днямі цягаўся па рынках, вуліцах і пляцох, паказваючы свае штукарствы-фокусы.—„Фогуза-могуза"... А лядзіа— акуліка—луна лажня"... І тут-жа на вачох прысутных клаў кульку ў шапку.—„П-ха! Пойегла... Куды куліка пой'егла? Ны зная?"... Таемна скрывіўшы мордачку і хітра жмурачы вочы, ён, к агульнаму зьдзіўленьню, пад дружны рогат выцягваў кульку ў каго-небудзь з барады. На пасьцеленым дыванчыку ён крыўляўся і куляўся на розныя манеры. Падкідваў і тут-жа лавіў запаленыя факелы, глытаў запаленае пакульле або пушчаў вужаку ў рот:— „Ас!" І выцягваў яе з ноздры.—„Дуа!" Гледачы заміралі ад зьдзіўленьня і цікавасьці і з захапленьнем крычалі:— „Давай, давай!"—Пакідаў тут хлопчык крыўляцца і выраз яго твару мяняўся. Нікла вясёласьць, у вачох сьвяцілася туга. З падранай шапкай абыходзіў ён гледачоў, неяк жудасна, сумна глядзеў на чужыя незнаёмыя твары і прасіў у паўголаса:—„Давай дзіньга".

Кітайчык ведаў шмат розных фокусаў, і зьбіраў ня мала грошай. Здараліся і нешчасьлівыя дні, але на яду хапала амаль што заўсёды. Да знаёмства з Агатаўнай жыў ён на вуліцы, і хоць шмат зарабляў, але начаваць часта прыходзілася то ў гарадзкім садзе, то пад плотам у гразі і сьнезе. Нядобра жылося маленькаму Ліу. Хворага знайшла яго

на вуліцы Агатаўна і адратавала хлопчыка, ведаючы, што на ім нямала можна зарабіць. І не памылілася яна. Усё, што зарабляў Ліу, пераходзіла цяпер да Ларывоніхі. Як і другіх дзяцей, яго ператрасалі і бязьлітасна білі. Старой усё здавалася, што ён хавае ад яе грошы. Жыцьцё маленькага штукара стала куды горшым, чым было дагэтуль. Шмат разоў уцякаў ён ад Агатаўны. Але горад быў малы і ніяк у ім нельга было захавацца. Праз дзень або два Ларывоніха яго адшуквала і зноў адводзіла да сябе. Не шкадуючы білі за гэта хлопчыка і кідалі на некалькі дзён у цёмны вільготны склеп. Так абыходзілася Агатаўна са ўсімі дзяцьмі, якія ўчынялі перад ёй тую ці іншую віну. Шмат дзяцей ня вытрымлівала гэтага і памірала.

IV.

У гразі, холадзе, галадоўлі і бойках цягнулася жыцьцё дзяцей. Нічога добрага ня бачылі яны. Толькі адну невялічкую радасьць мелі дзеці. Кожны вечар з нецярплівасьцю чакалі яны свайго любімага ўсімі сябра Ліу-Сім-Хая. Заўсёды прыносіў ён чаго-небудзь паесьці, бо так хітра ўмеў хаваць у сваіх лахманах, што нават Ларывоніха не знаходзіла захованага. Усё, што прыносіў Ліу, дзялілі між усімі дзяцьмі.

Была восень. У адзін з цёмных, непагодных вечароў валялася дзятва на гары, і, ляскаючы ад холаду зубамі, чакала свайго прыяцеля. А ўнізе ў шынку грымела музыка, чуліся сьпевы. Нецярплівасьць сярод дзяцей расла з кожным момантам. Усіх непакоіла адсутнасьць Ліу. „Пэўна заблудзіўся“, сказаў нехта.—„Ну“, адказаў другі: „Прыдзе“. А дзяўчынка, Манька Галаўніна, заплакала... „І-е-есьці хоцца-а“... Зараз-жа Міхась гаркнуў за ёю на ўвесь голас:—„Сьцю-удзёна!.. Жэрці ахвота-а“... Застагналі і заплакалі ўсе дзеці. Хутка прыбегла на гул са сьвечкаю і папругай у руках старая Ларывоніха.—„Хлебца да-ай!.. Па маленькаму, па кавалачку... цётачка, даражэнькая!.. Хоць скарыначку дай“. Ларывоніха, блытаючыся сярод скурчаных маленькіх целаў дзяцей, тапталася па іх і, сьцёбаючы папругай



*Падкідваў і тут-жа лавіў запаленыя факелы, глытаў запаленае пакульле...*

злосна шаптала: „Маўчаць, каб было ціха ў мяне“...

Пайшла Ларывоніха. Яшчэ з большай нецярплівасьцю чакалі дзеці Ліу, але дарэмна. Ні ў гэту, ні ў наступную ноч ня прышоў кітайчык. Жыцьцё для дзяцей стала яшчэ горшым, яшчэ сумнейшым.



*„Міленькія, даражэнькія, пашкадуйце...*
*Кавалачак х‘епа“...*

V.

А Ліу пашанцавала. Ужо цэлы тыдзень жыве ён у дзіцячым доме. Ніхто ня біў яго. Ня трэба было бегаць цяпер па вуліцах і паказваць „фокуз-могуз“, каб зарабіць на хлеб. Навокала была чыстата, якой дагэтуль ня прыходзілася бачыць Ліу. Яго вымылі пастрыглі, надзелі чыстую бялізну. У першы раз на жыцьці Ліу на ім ня было вошай, у першы раз ногі былі чыста вымытыя. Шмат дзівіўся Ліу жыцьцю дзіцячага дому. Дзівіўся і таму, што яго малыя таварышы былі вясёлыя, добрыя, рэдка плакалі, рэдка біліся, рэдка лаяліся і злаваліся. Раніцою ўсе ўставалі адначасова. На стале перад кожным стаялі: прыгатаваная талерка з рысам, лустачка хлеба і шклянка малака. Ліу толькі шчасьліва ўсьміхаўся. Але як-жа ён трапіў сюды? А было гэта так. Як і заўсёды Ліу куляўся. Убачыў яго настаўнік дзіцячага дому, пашкадаваў ён беднага хлопчыка і пазваў яго ў дом, дзе шмат дзяцей, якіх ніколі ня б‘юць. І пайшоў Ліу. А чаму-ж не пайсьці? Чаму-ж не спрабаваць шчасьця?

Увесь дзень была занятая дзятва. Зраньня капаліся на агародзе, прачышчалі ў садзе сьцежкі, цягалі на кухню дровы, ляпілі, малявалі. Перад полуднем хадзілі ў гарадзкі сад. А ўвечары пелі, гулялі і расказвалі казкі. Засыпаючы ў чыстай пасьцелі, пасьля смачнай вячэры, часта ўспамінаў Ліу сваё ранейшае жыцьцё, і цяпер яно здавалася яму такім далёкім, такім нудным.

VI.

За спрытнасьць, адважнасьць і зручнасьць усе пакахалі яго. У вольны час паказваў Ліу дзецям свае штукарствы. Падкідаў і лавіў некалькі талерак за раз, хадзіў на руках уніз галавой і выдумляў шмат розных, цікавых забаў. Добра жылося Ліу. Але ў адзін прыгожы сонечны дзянёк занудзіўся кітайчык па вулічным руху. Захацелася яму паглядзець на рынак. Вышаў ён няпрыкметна з дому і, весела сьпяваючы, пайшоў па вуліцы, а там усё было так знаёма яму. Каля дзьвярэй аднаго магазыну сядзела ў зрэб‘ях маленькая фігурка. Нізка схіліўся над ёю Ліу, глянуў у твар і пазнаў Маньку Галаўніну. Чуць жывая сядзела яна з высахшым, пачарнеўшым ад галадоўлі тварам. Прысеў Ліу на кукішкі і крануў дзяўчынку за плячо:—„Маніна, здалова“.—Пазнала яго

Манька, радасна засьвяціліся яе вочкі:— „Гаспадыня недалёка“.—Падняў Ліу з тратуару яе, схапіў за руку і пацягнуў за сабою. У гэты момант цяжкая кагцістая рука Ларывоніхі схапіла яго за карак.—„Ах ты сякі, такі!.. Азіят“... Удары зьвязкам ключоў пасыпаліся на яго галаву і твар. Дарэмна стараўся ўцячы і выратавацца хлопчык. Ларывоніха, як кіпцямі, трымала яго за шыю. Твар хлопчыка і грудзіну ў белай сарочкі залівала кроў. А тая, засопшыся ад злосьці, тлумачыла натоўпу, які зьбягаўся, пачуўшы крыкі хлопчыка: „Абабраў мяне, мае мілыя, ды ўцёк... Як ёсьць у аднэй кашулі пакінуў мяне, дрэнь касавокая“...

Дома сама Агатаўна некалькі разоў біла хлопчыка. Наб'е, наб'е ды пойдзе ў свой пакойчык, адпачне крыху ды зноў ідзе на кухню, дзе валяўся няпрытомны, зьбіты хлопчык. Што было далей не памятае Ліу. Ачуняў Ліу ад холаду і вільгаці і здагадаўся, што ляжыць у склепе. Балела ўсё цела, з разьбітага вуха цякла кроў. Успухлі разьбітыя губы. З дзяснаў тарчалі асколкі 2-х выбітых зубоў. Спрабаваў ён было ўстаць,



Акцябронак Савецкае краіны страшэнна абураны супроць кітайскага ката. Замах рукі і выраз твару сьведчаць аб яго нездаволенасьці.

але ад страшэннага болю ўсё цела балюча закалацілася і абрынулася аб каменны пол. Цяжка закрычаў няпрытомны хлопец.

Ноччу Ліу быў абуджан сьветам. Усхапіўся ён і сеў праціраць вочы. Праз шчыліну адчыненай накрыўкі прасунулася калматая галава Манькі.—„Гайда, хутчэй гай-да“... ціха шаптала яна. Забыўся Ліу пра боль і ў адзін момант па мураванай сьцяне вылез наверх. Каля Манькі стаяла двое дзяцей. Сталі раіцца, што рабіць далей. Бліскучая думка мільганулася ў галаве кітайчыка. Пакінуўшы сяброў на кухні, пабег ён раптам на гару і пабудзіў усіх дзяцей. Маленькім апранацца памагла Манька.—„Толькі цішэй“, скамандавала яна.—„Куды цяпер, куды мы пойдзем“, шапталі ўсе дзеці.—„Ён ведае куды“, сказала Манька ўпэўненым голасам, паказваючы на Ліу. І дзеці, бязумоўна, зразумелі яе. Пад кіраўніцтвам Ліу бегла дзятва туды, дзе шмат вольных дзяцей, дзе нікога ніколі ня б'юць,—беглі ў дзіцячы дом.



Гэта адзін з шматлікіх катаў буржуазных кітайскіх генэралаў. У апошнія часы гэтыя генэралы надзвы чайна шмат расстрэльваюць і вешаюць зусім бязьвінных бедных кітайцаў, якія хочуць скінуць з сябе ярмо чужаземнае і свае буржуазіі.




Казка вучня *К. Шавеля.*

I.

Раз камень зайцу расказаў,
Як ён па сьвеце вандраваў.

А я наставіў сваё вуха
І гэту гутарку падслухаў.

Камень:

Ужо мінула шмат гадоў,
У Беларусь як я прышоў.

Ня помняць гэтае пары
Дзядоў тваіх мо' соцен тры.

Цяпер паслухай мяне, зайча,
Дзе я радзіўся, скуль узяўся,

І як папаў я, вось, сюды
І колькі меў тае бяды...

Усеўся заяц ля мяжы
І так да каменя: „Кажы,—

Сказаў з павагаю ласкавай,—
Кажы, бо гэта мне цікава.“

Камень:

Я жыў на поўначы далёкай,
Адсюль яе ня ўбачыш вокам.

Той край Фінляндыяю зваўся;
Там цэлы пласт каменны слаўся.

І як людзкому зглядзець воку,
Такой гара была высокай.

А калі глянуць навакола,
Было ўсё гладка, пуста, гола.

Сьнягі нас зьверху пакрывалі,
(Ох, і марозілі-ж бяз жалю!).

Заяц:

Ну, пачакай, ты сам казаў—
Ў вялікай глыбе ты ляжаў;

Напэўна, гэта ты нахлусіў,—
Як-жа адтуль ты выйсьці мусіў?

Камень:

Ай, шэры, шэры, пачакай,
Апавядаць мне не мяшай!

Штодня сьнег з неба асыпаўся
І пласт за пластам вышай клаўся.

Але-ж і сонца прыпякала
І таму сьнегу так даймала,

Што ён, растаўшы, кожны раз
Вадой сачыўся аж на нас.

Вада-ж зьмярзалася тут лёдам
(Ішлі так дні і год за годам),

І лёду шмат панамярзала,
А ў нас і сілы не хапала

Яго, грамадзіну, трымаць.
Аж чуем: лёд пачаў трашчаць.

І ў хуткім часе лёд навалай
З гары стаў сунуцца памалу.

А як з гары тае ён плыў,
Шмат нас з сабою захапіў.

Дзянькі ішлі, і мы, як гусі,
Прычхалі аж да Беларусі.

Больш не маглі ісьці мы далей,
Адпачываць на месцы сталі.

Мацней тут сонца прыпякала...
І лёду горача аж стала...

Гадкоў за сотню праваліла,
І лёд вадою затапіла.

Растаў той лёд яшчэ ня скора,
А як растаў, дык стала мора.

Мы пад вадою апынілісь
І ўжо-б, напэўна, патапілісь,

Каб сонца больш не прыпякала
І тэй вады не асушала.

Калі-ж мінула завіруха,
Навокал стала чыста, суха.

Ў зямлі сталецьце я ляжаў,
Ніхто мяне не заўважаў.

Я й сам ня ведаю чаму,
Мо' ня было яшчэ каму

Мяне з зямліцы адкапаць
І на патрэбы скарыстаць?

Але вось нек вясной у маі
Я чую хтось зямлю капае,

Яе скідае ўсё з мяне,
Лягчэй аж стала, браце, мне.

А як мяне ўжо адкапалі,
Зірнуў я,—людзі тут стаялі...

Яны падважылі кіямі
Мяне і выкінулі з ямы.

Тут людзі часу ня глумілі,
Мяне на воз яны ўзлажылі,

Вужышчам добра увязалі
І пугай коніка пагналі.

Навэкал тут былі палоскі
Сялянскіх ніў. Часамі вёскі

Нас па дарозе спатыкалі,
А мяне везьлі й везьлі далей.

Прывезьлі,—коніка спынілі
І на зямлю мяне звалілі.

А пачакаўшы з паўгадзіны,
Ўсё тыя-ж самыя мужчыны

Сюды прывезлі больш каменьняў,
І стала мне тут сьвету меней.

Дзянькі за днямі ўсё валілі,
Каменьняў больш ды больш вазілі

(І я па праўдзе гавару,
Што навазілі нас гару!)

Я з сонцам, з сьветам зноў растаўся
Бо аж на самым дне астаўся,

А потым, тыя-ж, вось мужчыны
Шмат навазілі вапны, гліны

І пачалі яе мяшаць,
А нас на дробязь разьбіваць.

Ой-жа, праклятыя, бяз жалю,
Мне ўсе бакі паадбівалі.

Рабіць пачалі там палацы,
Ох, і было-ж ім бедным працы!

Ад цёмнай раніцы да ночы
Пот заліваў ім твар і вочы.

Ў рабоце молат, лом, лапата.
А тут-жа, з боку, прыганяты

Каля мужчынаў тых стаяў
І іх да працы прыганяў.

А калі скончылі ўжо працу,
Зьмясьціўся пан у тых палацах.

Кругом маёнткаў было поле,
Валокаў сто, а можа й болей.



І побач ля стракатай вёскі
Цягнулісь шэрыя палоскі.

Шмат прыганятых была ў пана,
І кожны раз яшчэ ад рана

Яны з тэй вёскі люд зганялі,
Каб пану поле ураблялі.

Калі хтс-небудзь правіняўся,
Напрыклад, з працай не спраўляўся,

Таго ў палац да пана гналі,
І там бяз меры катавалі.

Ў сьцяне ляжаў я і ўсё бачыў,
Бывала часта, што й заплачу.

Калі глядзеў, як пан той люты
Заўжды чыніў людзям пакуты...

II.

Гадкоў, ой, многа пракацілась,
Паноў тут розных шмат зьмянілась,

Калі адзін пан уміраў,
Сын яго месца заступаў.

Адзін раз раньняю вясной
Уночы людзі грамадой

Саломы многа навазілі
Ды мур той панскі запалілі.

Палац той хутка зашугаў,
Аж я ад страху задрыжаў.

Тэй небясьпечнаю парой
Пан моцна спаў з сваёй сям'ёй...

III.

Ды адзін раз нек перад раньнем
Пачуў я моцнае страляньне,

А пачакаўшы час каторы,
Салдат я ўбачыў цэла мора.

Ўсе яны дзіка выглядалі
І палякамі называлісь.

А там, за лесам на паляне,
Былі рабочыя й сяляне,

Супроць варожага народу
Яны змагалісь за свабоду.

Былі іх дружныя калёны,
Нясьлі з сабою сьцяг чырвоны...

Палякі ўрэшце ўсё-ж змагліся
І ходу далі, панясьліся..

IV.

Цяпер вось тут, заместа пана,
Працуюць нашыя сяляне,

І я ніколі ўжо ня бачыў,
Як той ці іншы з болю плача.

Закончыў камень тут гаворку,
Ну, а тымчасам заяц борка

Ад страху ў цёмны гай памчаўся,
А камень зноў ляжаць астаўся.

Так і цяпер ён ля мяжы
Панура й ціханька ляжыць.

К. Шавель.

---

# ТАВАРЫШЫ ЧЫТАЧЫ!

**Часопіс „Беларускі Піонэр“ з кожным нумарам паляпшаецца. Часопіс перажыла час неакуратнага выхаду і спазьненьняў. Цяпер кожны падпісчык акуратна атрымлівае часопіс 2 разы на месяц. Але ня ўсё яшчэ зроблена. Часопіс наша пашыраецца яшчэ толькі каля 4.000.**

**Піонэры, вучні і ўсе чытачы! Ваш абавязак пастарацца пашырыць часопіс так, каб яе чыталі ўсе дзеці.**

---

## Гнёзда для курэй.

Дзеці, ці падумалі вы аб тым, дзе ў сёлетнім годзе ў вашай гаспадарцы будуць несьціся куры? Ці падрыхтавалі вы гнёзды для нясушак і ці знаходзяцца яны ў парадку?

— Дзіўныя пытаньні,—скажуць некаторыя. — Нашто нам трэба клапаціцца аб гнёздах, ці ня ўсё роўна, дзе курыца зьнясецца?

Такое разважаньне няправільнае. Кожны павінен імкнуцца да таго, каб куры далі, па магчымасьці, больш прыбытак. Калі курыца ня знойдзе зручнага і падыходзячага месца, дзе-б можна было ёй зьнесьціся, дык яна прымушана шукаць месца якое папала, напрыклад, пад хатай, у клуні і г. д.

Ад гэтага можа аказацца даволі вялікі недабор яек, перавышаючы часамі некалькі дзесяткаў. Вельмі часта такія яйкі зьнішчаюцца кошкай, сабакам, пацуком ці якім-небудзь іншым драпежнікам. Калі і ўдаецца прасачыць, дзе курыца нясецца, і знайсьці з дзесятак і больш яек, дык апошнія могуць аказацца сапсутымі.

Трэба наладжваць гнёзды, зручныя для курэй. Часта з-за гнёздаў паміж птушкамі адбываюцца бойкі, калі гнёзды зроблены няроўнымі. Каб ухіліцца гэтых непажаданых сварак між курмі (бо ў часе сваркі адна другой перашкаджае несьціся, можа раздавіць зьнесеныя яйкі і г. д.), неабходна гнёзды рабіць аднолькавай формы, памеру і яны павінны знаходзіцца пры аднолькавым асьвятленьні. Калі гнёзды падвешваюцца на сьцяну, дык абавязкова на аднолькавай вышыні.

Падвешваньне гнёзд мае тую перавагу, што не займае ў куратніку лішняе плошчы падлогі. Да сьцяны гнязда нельга прыбіваць шчыльна, а трэба павесіць, бо пры ачыстцы гняздо прыдзецца зьнімаць. Звычайна гнёзды вешаюцца ад падлогі на вышыні 10-12 вяршкоў.

Разьмер гнёзд для кур робіцца 6-ці, 7-мі вяршкоў шырыні і гэткае-ж даўжыні.

Лепшымі гнёздамі для курэй зьяўляюцца драўляныя, якія робяцца звычайна так: зьбіваецца доўгая скрынка і ўнутры яе робяцца перагародкі, згодна паказаных памераў. Ня трэба браць плеценых з лазы гнёздаў; у іх заводзяцца шкоднікі.

Усякае бруднае і нават вымытае яйка ня мае ўжо той цаны, як чыстае, дзеля



чаго трэба падсьцілку часьцей мяняць. Таксама добра раз у месяц прамыць гнёзды, а потым высушыць, каб не заводзіліся шкоднікі.

Усю працу па ачыстцы гнёзд трэба праводзіць на вуліцы. Ніколі ня трэба дазваляць курам начаваць ці садзіцца на гнёзды, бо, дзякуючы гэтаму, адбываецца лішняе забруджваньне іх.

У сакавіку і красавіку месяцах бываюць яшчэ халодныя дні, і калі куры нясуцца, дык трэба часьцей наведвацца ў куратнік, бо можа замерзьці яйка, і тады яно ўжо псуецца. Таксама ў моцную жару ня трэба яйкі доўга трымаць у куратніку.

**Агроном Штрандт.**



# Якой павінна быць зямля пад агарод.

Лепшай зямлёй пад агарод лічыцца сугліністая,—на пескавой зямлі агароднiна расьце слабей. Вызначаны для агароду кавалак зямлі павінен быць зачыненым ад халодных паўночных і паўночна-ўсходніх вятроў. Такая агароднiна, як гуркі, на адчыненым, халодным месцы расьце зусім дрэнна, а шмат якія іншыя расьліны (памідоры, кабачкі) на гэткім месцы не дарастаюць сваёй натуральнай велічыні. Зямля пад агарод не павінна быць сухой, таксама ня можа лічыцца добрай і мокрая зямля. Хоць, праўда, на мокрай зямлі можна зрабіць высокія грады і яе асушыць, а сухая зямля пад агарод зусім не гадзіцца.

**Як апрацоўваць зямлю пад агарод.**

*Угнаеньне.* Лепей усяго класьці на агарод сьвежы, натуральны гной увосень. Вясной класьці сьвежы гной можна толькі пад купусту; пад усе іншыя расьліны, калі па якой-небудзь прычыне гной увосень ня быў вывезены для іх, трэба палажыць гной дробны і перагніўшы.

Увосень усе агароды павінны быць вzoраны. Вясной агароды адзін раз узорваюцца, другой воркай з іх робяць шырокія альбо вузкія (як для бульбы) грады. Шырыня град павінна быць ня больш 2 арш., даўжыня можа быць большай або меншай, гэта ніякага значэньня ня мае. Разоры між такіх град робяцца: 6-8 вяршкоў шырыні і 4 вяршкі глыбіні. Вузкія градкі робяцца асыпнікам на адлегласьці аднаго аршына адна ад другой.

На шырокіх градах сеюць такія расьліны, якія могуць расьці цясьней, як сталовыя буракі, морква, пятрушка, цыбуля, часнок, а на вузкіх градках сеюць і садзяць такія расьліны, якія патрабуюць больш прасторы—капуста, кармовыя буракі і морква.

**Пасеў і пасадка расьлін.**

Агародныя расьліны сеюцца ня ўсе ў адзін час. Адны канчаюць свой рост раней, другія растуць пазьней. Капуста і бручка сеюцца рана, прыблізна, у сярэдзіне красавіка, у расадніку ці ў парнікі, а памідоры і цыбуля—насеньнем у апошніх лічбах сакавіка. Буракі, морква, рэдзька сеюцца як толькі абсохне зямля, каля першага траўня. Агуркі сеюцца найпазьней, пасьля першай паловы траўня.

Аграном **Янчэўскі.**

✿✿✿✿✿✿✿✿✿✿

# Карысныя парады.

**Зьнішчэньне плям.**

*1. Плесьневыя плямы.* Бялізну і адзежу з папяровай матэрыі з плесьневымі плямамі палажыць у кіслую сыроватку на 12 гадзін, а потым вымыць. Другі спосаб—намыліць плесьневыя плямы, расласьць адзежу на траве, на сонцы і па меры таго, як яна будзе прасыхаць, паліваць вадой.

*2. Плямы ад смалы, дзёгцю, мазі, тарпатыны і вары.* Усе гэтыя плямы трэба намачыць вадою, потым моцна церці французскім шпігінарам і пагладзіць гарачым жалязкам праз прамакацельную паперу.

*3. Плямы ад ёду.* Абліць плямы нашатырным сьпіртам. Сьвежая пляма прападзе ў той-жа час, а застарэлую трэба абліць некалькі разоў, а потым прапаласкаць цёплай вадой.

*4. Плямы ад ляку і масьляных фарбаў.* Спачатку фарбы размачыць французскім шпігінарам, а потым выцерці ачышчанай бэнзынай.

**Як зьнішчыць клапоў.**

1. Вымазаць тое месца, дзе знаходзяцца клапы, гарачым канапляным алеем, і клапы падохнуць.

2. Наліць у чыгун шэсьць шклянак сырой вады, усыпаць адну шклянку солі (тэй, што соляць стравы) і ўсё гэта закіпяціць. Потым гэты рашчын (раствор) астудзіць і абмазаць пэндзэлем тыя месцы, дзе знаходзяцца клапы. Дзейнасьць кухеннай солі на клапоў вельмі вялікая. Яна губіць ня толькі самых клапоў, але таксама і іх зародкі.

# КУТОК ЮНАГА ПЧАЛЯРА




## Карысьць ад пчол.

Пчалярная справа знаёма чалавеку з часоў сівой старасьветчыны.

За гэты доўгі тэрмін пчаляры змаглі набыць даволі вялікі вопыт у справе разьвядзеньня пчол, догляду за імі, вывучалі характар іх і г. д.

Ад простага прымітыўнага спосабу паляваньня за пчоламі з мэтай пажывіцца іх салодкім мёдам, чалавек дайшоў да ўтварэньня цэлых пасечных гаспадарак. Пчалярства стала для многіх ня толькі дапаможнай выгаднай справай у гаспадарцы, яно можа быць і самастойнай гаспадаркай.

Вывучаючы жыцьцё, звычаі і характар пчол і набываючы гэтым самым вопыт, чалавек перадаваў гэты вопыт з пакаленьня ў пакаленьне. Так утварылася цэлая навука аб пчолах.

Шмат хто з моладзі дужа цікавіцца пчалярнай справай, і калі яшчэ ня мае пчол, напэўна, марыць аб тым, каб набыць іх і навучыцца даглядаць іх.

### Сямейнае жыцьцё пчол.

Пчолы жывуць сем'ямі. Сям'я іх складаецца з некалькіх тысяч пчол-работніц, з адной-двох тысяч трутняў і адной маткі. Пчаліная сям'я называецца роем.

*Матка.* Матка—гэта разьвітая самка; яна нясе яйкі двох сартоў: апладатвораныя і неапладатвораныя. З першых выходзяць рабочыя пчолы, а з другіх—трутні.

*Трутні*—гэта самцы. Яны зусім не працуюць, а толькі лётаюць на пагулянкі ў пагодлівыя дні. Трутні выводзяцца вясной, а ўвосень пчолы іх выганяюць.

*Рабочыя пчолы*—гэта неразьвітыя самкі. Усю работу ў сям'і выконваюць яны: будуюць соты, даглядаюць маладых пчолак улетку, лётаюць за здабычай і г. д.

### Пасекі пры школах.

Што пчалярства зьяўляецца самай прыбыткой справай і можа нават быць самастойнай гаспадаркай, гэта пчалярская практыка даказвае.

Апрача гэтага немалую карысьць прыносяць пчолы і сельска-гаспадарчым расьлінам. Яны, зьбіраючы ўвесну мёд, пераносяць на сваіх лапках пыльцу з аднэй расьліны на другую і, такім чынам, дапамагаюць апыленьню іх. Дзякуючы апошняму, значна павялічваецца ўраджай тае гаспадаркі, дзе зблізку маюцца пчолы.

Пры школах, дзе маюцца свае агароды і паказальныя вучасткі, вельмі пажадана мець паказальную пасеку пчол.

Праца вучняў на гэтай пасецы і практычнае вывучэньне жыцьця пчол дасьць для іх вялікую карысьць. Шмат хто з іх пасьля школы зможа завесьці пчол і ў гаспадарцы свайго бацькі, або ў будучым сам стане добрым пчаляром.

Для пачатку організацыі, бязумоўна, патрабуюцца сродкі, напр., трэба нажыць 1-2 вульлі (10—20 р.) і некалькі пчалярскіх інструмантаў.

Гэтыя сродкі трэба дастаць часткай з камітэту ўзаемадапамогі (апошні, бязумоўна, пойдзе на падтрыманьне такой справы), а часткай шляхам платных вечароў і збораў.

Такія пасекі пры школах павінны зьявіцца ня толькі выхаваўчым сродкам для вучняў, яны-ж павінны аб'яднаць вакол сябе ўсіх мясцовых пчаляроў—калоднікаў, дапамагаць ім у сваёй працы і г. д.

Пчаляр **Баброўскі**.

# ЗАРАБОТАЙ.

## Самі пераплятаем кнігі.

*(М. Старобін).*

Да гэтага часу пры нашай сямігодцы ня было пераплётнага гуртка, і кожнаму вучню прыходзілася плаціць каму-небудзь за пераплёт кнігі па 30 кап.

Таксама школьныя непераплеценыя кнігі вельмі хутка рваліся. Але цяпер, па ініцыятыве піонэраў і вучняў 7-е клясы, організаваны пераплётны гурток, у якім працуюць вучні старэйшых груп.

Школа заказала для гуртка варстат з нажом, што каштавала ўсяго 5 р. Кіраўніком гуртка зьяўляецца піонэр-комсамолец, вучань 7-й групы. Гурток у першую чаргу ўзяўся пераплятаць школьныя кнігі. **Рыклін.**



У пераплётнай майстэрні.

## Праца нашага клюбу.

*(Горад Рэчыца).*

Наш гарадзкі піонэрскі клюб абслугоўвае 11 піонэрскіх атрадаў і 4 групы акцябрат. Пры клюбе маецца чытальня, бібліотэка і шашачны пакой. Сіламі саміх піонэраў утвораны наступныя гурткі: „Сіняя блуза“, дзяткораўскі, музычны, радыё-гурток і гурток канькабежцаў. Цяпер наладжваем пераплётную майстэрню і гурток кройкі і шыцьця. Асабліва дзеці цікавяцца мастацкімі гурткамі, як, напрыклад: „Сіняя блуза“ і музычны. Сіламі гэтых гурткоў мы абслугоўваем свае піонэрскія вечары, сходы бацькоў і профсаюзныя сходы.

Гурток „Сіняй блузы“ некалькі разоў для пастановак выяжджаў на вёску. К лету думаем пры клюбе зрабіць свой агарод і сваю спартыўную пляцоўку. Адзін недахоп—гэта адсутнасьць матар'яльнай базы, што не дае магчымасьці яшчэ шырэй разгарнуць працу клюбу.

Кожны дзень вечарам у клюбе адчуваецца жывасьць. З аднаго пакою чутны гукі вясёлага маршу, у другім пакоі піонэры сур'ёзна заняліся чытаньнем, у трэцім—працуе гурток, працуе бібліотэка. Весела, спакойна і цёпла. Агульнымі сіламі, дружнай колектыўнай працай мы будуем нашае новае жыцьцё.

**Я. Каўфман.**

Рэчыца,
А. Б. „Ю. П.“




## Помню лета.

* * *

Над ракой бурлівай
Дуб стары схіліўся
І з зялёнай нівай
Думкамі дзяліўся.
Лісьце ён разьвесіў
Нізка над вадою,
Пазіраў да лесу,
Дзе шапталі хвоі.
К берагом зялёным
Сонейка тулілась,
Слухала, як клёны
З дубам гаманілі;
Золатам вагністым
Цешыла прасторы,
Слухала, як лісьце
Між сабой гутораць.

Піонэр **Ал. Розна**.

## Вучымся пабеларуску.

*(Ліст з Сібіру).*

У нашым пасёлку школа організавана з 1920 году, але да 1925 г. заняткі ў ёй вяліся на расійскай мове. Гэта шмат шкодзіла працы, бо дзецям-беларусам цяжка было запамінаць новыя расійскія словы і іх значэньне.

З 1925 г. мы пачалі ў школе вучыцца пабеларуску. І тады вучоба пайшла лепей.

Адно дрэнна, што ў нас амаль зусім няма сувязі з цэнтрам беларускай нацыянальнай культуры. Для школы атрымліваем праз настаўніка толькі адну газ. „Беларуская Вёска". Але вось на днях адзін вучань *атрымаў нумар „Беларускага Піонэра"*, які бацька яго выпісаў разам з „Беларускай Вёскай". *Мы, вучні, усёй клясай чыталі гэты нумар, надта ім зацікавіліся, і парашылі выпісаць адзін экзэмп. „Беларускага Піонэра" для ўсёй школы на год.*

**Я. Бабіновіч.**



# „Іх вучаць дабраму“.

*(Гарадок, Бабруйскае акругі).*

Група акцябрат арганізавалася ў 26 годзе. Спачатку праводзіліся гутаркі, што такое акцябраты, якім павінен быць акцябронак. Праводзіліся гульні, сьпевы, пагулянкі. Сабіралі лячэбныя травы. Зімою пачалася больш сталая праца групы.

**Акцябраты за практычнай працай.**

Акцябраты займаліся дома. На двох зборах займаліся шыцьцём; акцябраты прыносілі з сабой іголкі, ніткі, кавалкі матэрыі. На першы раз парашылі выканаць такое заданьне: пашыць спадніцу. Усе прымаюцца за працу, хто рэжа матэрыю, хто шые, і, такім чынам, пашылі спадніцу. На гэтых занятках самі папраўлялі вопраткі тым, у каго яны былі парванымі; пасьля адбываліся гульні і сьпевы. У другі раз рабілі кошыкі і кветкі з паперы; гэтымі кветкамі і кошыкамі ўпрыгожвалі куткі ў хаце і школе.

На занятках групы малявалі, чыталі газэты і часопісь.

Матак гэта праца вельмі зацікавіла; яны самі паказвалі на занятках, як трэба шыць. Некаторыя з іх казалі, што яны думалі, што акцябрат вучаць толькі гуляць і сьпяваць, а цяпер яны бачаць, што іх вучаць дабраму.





**Змаглі арганізаваць адпачынак.**

Акцябраты і некаторыя піонэры самастойна зложылі п'еску. Добра вывучылі яе і правялі спэктакль для бацькоў. Пасьля першага спэктаклю дзеці зложылі другую п'еску, і на гэты раз паставілі платны спэктакль. На апошнім было шмат дарослых. Ад спэктаклю атрымалі поўны збор.

П'еска, пастаўленая акцябратамі, вельмі зацікавіла ўсіх гледачоў, усе былі ёю задаволены. На сродкі ад спэктаклю выпісалі газэты, купілі кнігі і г. д.

**Прымаем удзел і ў школьнай працы.**

Акцябраты актыўна ўдзельнічаюць і ў самакіраваньні. Добра пастаўлена праца камісіі як санітарнай, гэтак і культурнай. Праводзіліся ранішнікі з добрай праграмай. Выпускаецца насьценная газэта і арганізаваны школьныя гурткі.

Кожны акцябронак мае аднаго санітара, які на занятках праводзіць агляды і гутаркі.

У часе кампаніі па дапамозе дзецям Заходняй Беларусі, дзеці-акцябраты сабралі 1 руб. 25 кап.

**Каган.**

# ЗА ВУШКА ДЫ НАПАКАЗ.

### Ня вытрымалі.

Надакучыла старэйшым піонэркам і піонэркам-комсамолкам *Любоніцкага* атраду слухаць гутаркі павадыроў і вымовы за сваю недысцыплінаванасьць. Куды лепш, па іх думцы, лузгаць гарбузікі, пудрыцца, хадзіць позна гуляць і г.д.

Так і робяць.




Дзяткор, паведаміўшы нас аб гэтым факце, кажа, што „такіх піонэрак ня трэба трымаць у атрадзе“. Цяжка, бачыце, сказаць аб іх што-небудзь пэўнае, пакуль савет атраду не абмяркуе гэтага пытаньня, а вось прыклада браць з іх дык не патрэбна.

### Вынаходчывы павадыр.

Павадыру зьвяна атраду імя Чарвякова *Х. Бэйнусаву* патрэбны былі грошы. Ён доўга ламаў галаву над тым, як іх здабыць і, нарэшце, дадумаўся...

— Хлопцы!—агітаваў Бэйнусаў на сходзе зьвяна,—там, на Захадзе, нашы браты стогнуць пад уціскам паноў і буржуяў. Мы павінны ім дапамагчы і сабраць грошы на карысьць МОПР‘у. Прэч сусьветную буржуазію і няхай жыве пролетарыят!!!

Выслухаўшы павадыра, піонэры з ахвотай адгукнуліся і сабралі на карысьць МОПР‘у па 7 кап.

Але тут здарылася маленькая недарэчнасьць. Сабраныя піонэрамі грошы пашлі не на карысьць МОПР‘у, а на карысьць самога Бэйнусава. Апошні „памылкова“ палічыў іх за свае і... далей ужо ўсё зразумела.

„Таленавіты“ павадыр зьвяна за сваю вынаходку патрабуе адпаведнай узнагароды.

### Каму рукі сьвярбяць.

Піша нам дзяткор Кандыбовіч з *Капыля*:

„Іду я раз па вуліцы з адным таварышам. У гэты час падбягае да нас піонэр 14-га атраду *К. С.* ды бяз усякай прычыны пачынае біцца. Ледзьве мы ад яго ўцяклі. Наогул, калі *К. С.* на каго-небудзь злуе, дык не дае яму прайсьці па вуліцы“.

„Нэрвовы“, як відаць, хлапец гэты К. С! Атраду трэба накіраваць яго да доктара, няйначай.

### Распусьціліся.

Аб учынках вучняў *Путчынскай* школы, Койданаўскага раёну, ужо раз пісалася ў нашай часопісі. Паведамлялася, што яны лаюцца брыдкімі словамі, іграюць у карты і наогул дрэнна сябе трымаюць.

Новы допіс дзяткора Сашы сьведчыць аб тым, што вучні ня толькі не пакінулі сваіх ранейшых дрэнных прывычак, але пачалі яшчэ больш хуліганіць і нават піць самагонку. „Сяляне і тыя ня ведаюць, што рабіць з імі“,—кажа дзяткор.

Калі і далей яны будуць так сябе трымаць,—сяляне бадай ці вытрымаюць: пачастуюць сваіх „слаўных сынкоў“ лазою ды дубцамі.

Але, здаецца, мясцовая ячэйка і школьныя організацыі павінны раней бацькоў дабрацца да такіх вучняў, і сваёй працай сярод іх перашкодзіць разьвіцьцю хуліганства.

**Мікраскоп.**




Апавяданьне **Я. Маўра**. Малюнкі **А. Тычыны**.

V.

На другі дзень, разам з сонцам і цяплом, цяжкія перажываньні расьсеяліся, але ўражаньні ад мінулай ночы, відаць, яшчэ засталіся. Людзі не пайшлі далей, а ўвесь час круціліся ля абгарэлага пню, аглядалі яго, капаліся ў попеле. Колькі было цікавасьці і радасьці, калі яны заўважылі, што там, у сярэдзіне, захавалася яшчэ цяпло.

Лепш за ўсіх адчувалі сябе дзеці. Колькі розных рэчаў знайшлі яны сабе. Вугольле, т р э с к і, гальлё, дубцы, кіі і к і ё ч к і, абгарэлыя, гладкія. Хутка яны ўзброіліся,—хто трэскай, хто кіём, і пачалася гульня.

Маткі знайшлі сабе прытулак пад верхавінамі 2-х невялічкіх дрэў, схіленых зваліўшымся дрэвам. Тая жанчына, якая калісьці выкарыстала трэсачку для выкопваньня карэньняў, цяпер зноў пачала карыстацца гэтай прыладай. Гледзячы на яе, і другія жанчыны спробавалі, і тут пачалося сьвядомае карыстаньне першай прыладай.

Асабліва пашанцавала хлопчыку Ра. Яму трапіўся ў рукі вельмі ёмкі кіёк. Узяўшыся за танейшы канец, Ра адразу заўважыў, што руцэ нібыта надалася вага і моц. А калі ён неяк ударыў па галінцы, калі яна затрашчала, ды пасыпалася лісьцё,—тады ўжо яму зусім спадабалася гэтая цацка.

Ён пачаў стукаць сваім кіём па дрэве, гальлі, па зямлі, але ня скора яму ўдалося яшчэ раз стукнуць так, каб адчуўся добры ўдар. Ён яшчэ ня ўмеў ударыць, як трэба.

Дарослыя займаліся сваёй справай і нават не глядзелі на гэтую гульню. Вось скокнула жаба. Ра замахнуўся сваім кіём на яе. Зразумела, ня трапіў, але ужо гульня была цікавей. Далучыліся другія дзеці і таксама стараліся штурхануць жабу трэсачкай ці галінкай. Абхінулі яе, пачуліся крыкі дзяцей, гульня зрабілася агульнаю

**Зьмест папярэдніх частак.**

**Даўно-даўно, можа міліёны са два гадоў таму назад, на зямлі ня было людзей, а жылі адны зьвяры. Але вось на палянцы зьявіўся гурток нейкіх істотаў, якія вельмі падобны былі да малпаў. Гэта і былі першыя людзі. Яны нічога ня ўмелі і ня ведалі: ні размаўляць, ні сьмяяцца, ні плакаць. Яны жылі таксама, як і ўсе зьвяры. Як ім цяжка было жыць і карміцца! Асабліва таму, што яны былі слабейшыя за зьвяроў. Вось насарог разарваў адну жанчыну. Вось стары адстаў, і яго зьелі зьвяры. Вось лезь у балота і давай дарогу нейкім там тапірам. Раз ім пашанцавала забіць голымі рукамі аленя, але ноччу напалі гіэны, каб адабраць здабычу. Прашлі міма волаты-мастадонты і перашкодзілі людзям. Аднаго разу хлопчык Ра выпадкова ўжыў кій у якасьці зброі, але людзі не заўважылі гэтай вынаходкі. Сустрэліся страшэнныя зьвяры—махайроды—ад якіх людзі ледзь выратаваліся на дрэве і адтуль паглядалі, як гэтыя зьвяры вялі бойку з бегемотам. Калі чалавек, Краг, заграз у багне, дык яго таварышы ня ведалі, як дапамагчы. Выпадкова выратавала дзяўчынка Агу. Прытуліліся яны раз у пяшчэры, але прышоў „гаспадар дому“—леў, і выгнаў іх ноччу на дождж. Так яны і стаялі ў лесе пад дрэвам і трасьліся ад холаду і страху...**

і вясёлаю, толькі... ніхто не сьмяяўся, а гэтыя рэдкія гукі былі зусім непадобны да крыку і шуму нашых дзяцей.

Жаба паскакала далей у кусты. дзеці за ёй, але, раптам, усе кінуліся назад: яны заўважылі зьмяю. Праўда, яна была досыць маленькая, але гэтага стварэньня чалавек заўсёды баяўся.

І вось тут адбыўся новы найвялікшы крок чалавецтва. Ра падскочыў да зьмяі і сьвядома падняў кій, каб яе ўдарыць. Калі раней ён ударыў чарапаху так сабе, ня ведаючы, што і чаму ён робіць, дык цяпер ён ужо *хацеў* ударыць.

І ён трапіў ёй па галаве. Закруцілася зьмяя, зашыпела так, што Ра спалохаўся і адбег назад. Але ўбачыўшы, што яна ня гоніцца за ім, а круціцца на месцы, ён зноў падышоў і пачаў біць. Толькі ўжо так трапна ня мог папасьці, і, можна сказаць, што яна здохла ад першага ўдара, а не ад далейшых.



*Ра падскочыў да зьмяі і сьвядома падняў кій, каб яе ўдарыць.*

На гэта здарэньне ўжо і старэйшыя зьвярнулі ўвагу.

Павадыр падышоў, узяў у рукі кій Ра, патрымаў, пакруціў, нават дакрануўся ім да зьмяі, але нічога асаблівага не пачуў. Дзеля яго, вялікага і сільнага, гэты кіёк быў вельмі малы. Таксама спрабаваў Краг і другія мужчыны і нават некаторыя жанчыны.

Сярод жанчын тымчасам не на жарт пачало разьвівацца „земляробства“. Яны ўсе ўжо калупаліся ў зямлі з дапамогаю трэсачак. І нават адыходзілі ў бок з трэстачкаю ў руках. Але рэдка хто з іх доўга трымаўся з сваёй прыладай; праз некалькі крокаў яны гублялі яе, забываліся і зноў працавалі, як „дзяды і прадзяды іх“.

Але ў даным выпадку вялікае значэньне мела тое, што людзі спыніліся на некаторы час на адным месцы. Згубіўшы і забыўшыся аб прыладзе, яны ўсё-ж такі вярталіся „дамоў“ і там зноў знаходзілі і прыпаміналі аб ёй. Шкода толькі, што яны доўга не маглі быць на адным месцы, што павінны былі шукаць і шукаць пажывы.

Пасьля „абеда“, калі людзі спакойна адпачывалі на палянцы. а Ра практыкаваўся з сваёй прыладай, павадыр зноў зацікавіўся тым, як ад удара кіём трашчаць галіны, сыпецца лісьце, ляцяць кавалкі.

Вось павадыру трапіў у рукі адпаведны кій: не даўгі і не кароткі, гладкі і досыць важкі. Ён пачуў, што гэты кавалак яму не перашкодзіць, а наадварот, нешта такое надае.

І пасьля некалькіх спробаў яму ўдалося стукнуць так, што гальлё затрашчала і пасыпаліся трэскі.

Каб перад ім апынуўся які-небудзь зьвер, можна думаць, што чалавек здагадаўся-б яго ўдарыць сваім кіём, а так—ён пагуляў крыху ды пакінуў сваю зброю.

Нялёгка, нават немагчыма. было яму адразу ўразумець усё значэньне гэтай зброі. Дзеля гэтага ён павінен быў-бы разважаць прыблізна так: „Вось гэта рэч надае рукам сілу. Ёю можна абараніцца ад ворага і забіць здабычу. Трэ‘ было-б заўсёды мець яе пры сабе“...

Так правялі яны на адным месцы ўвесь дзень. На ноч разьмясьціліся дзе хто хацеў: адны на зямлі, другія на дрэве.

Зранку, не пасьпелі яшчэ людзі зьлезьці з дрэва, як заўважылі, што з суседняга дрэва на іх пазіраюць нейкія дзіўныя стварэньні. Яны былі вельмі падобны да нашых людзей, толькі больш рухавыя, асабліва морды, якія ўвесь час крывіліся так, нібы яны сьмяяліся або дражніліся.

Гэта завіталі да іх у госьці „мілыя сваякі“—малпы.

І тыя і другія пазіралі адзін на аднаго з вялікай зацікаўленасьцю. Здавалася,

быццам усе яны адчувалі, што даводзяцца адзін аднаму нейкай раднёй.

Ва ўсякім разе відаць было, што яны ня ворагі адзін аднаму, загэтым яны паступова зблізіліся, перамяшаліся, пачалі аглядаць, кратаць адзін аднаго.

Аднэй малпе



*Гэта завіталі да іх у госьці „мілыя сваякі“— малпы.*

спадабалася наша красуня Агу. Ён так пачаў бегаць за ёй, што тая павінна была ўцячы ад яго на зямлю.

Скора людзям абрыдла гэта знаёмства, і яны адзін за адным спусьціліся ўніз.

Малпы засталіся на дрэве і мелі такі выгляд, быццам хацелі адзін аднаму сказаць: „Вось табе і раз!“ З зайздросьцю пазіралі яны на сваіх знаёмых, як тыя вольна хадзілі па зямлі, проста і цьвёрда трымаліся на дзьвюх нагах і лёгка ўладалі сваімі вольнымі рукамі.

Скрыўджаны „кавалер“ захацеў таксама паказаць сябе і спусьціўся на зямлю, стаў на дзьве нагі і пашоў да Агу.

Схіліўшыся, хістаючыся на кароткіх крывых нагах, абапіраючыся ў зямлю сваімі доўгімі рукамі,—ён меў такі сьмешны выгляд, што дзяўчына спынілася і паглядзела на яго такім вокам, што ён адразу апусьціўся на свае чатыры рукі і паваліўся назад, на дрэва.

А яна адвярнулася і горда пашла далей. Якім мы ня лічылі-б тагочаснага чалавека, а ўсё-ж такі малпа была яму не раўня.

Тымчасам людзі пакінулі стаянку і пашлі далей. А малпы доўга яшчэ ішлі побач з імі па дрэвах і сачылі за кожным крокам сваякоў...

Але і горды чалавек пашоў таксама з пустымі рукамі, як і прышоў. Усе яго вынаходкі, усе яго прылады засталіся на месцы.

Толькі Ра быў узяў з сабой свой кій, але праз некалькі крокаў згубіў яго і забыўся аб гэтым.

*(Канец будзе ў № 8).*



*Скрыўджаны „кавалер“ стаў на дзьве нагі і пашоў да Агу.*

# ПРЫВАБЛІВАЙЦЕ ПТУШАК.

### Армія шкоднікаў.

Галоўны занятак жыхарства нашае краіны—сельская гаспадарка. Апрацоўкай зямлі займаюцца мільёны людзей. Адны робяць гэта ўмела, другія—няўмела. У першых атрымліваецца добры ўраджай, у другіх—кепскі. Але нават пры добрай апрацоўцы зямлі не заўсёды ўдаецца атрымаць і сабраць добры ўраджай. Бывае так, што і лета было добрае—ня было вялікіх дажджоў, ні сухменьняў, але напалі на пасевы розныя шкоднікі і ўчынілі селяніну вялікія страты.

### Хто-ж гэтыя шкоднікі?

Іх цэлая армія. Галоўным чынам розныя мошкі (казюлькі) і дробныя жывёліны—грызуны. Хто ня ведае аб саранчы, якая цёмнаю хмараю налятае на палеткі і праз некалькі гадзін зьнішчае пасевы да карэньчыка? Хто ня ведае аб шкодзе, якую прыносяць нам палявыя мышы? Урэшце, хто ня ведае аб вусенях капуснага матылька, якія прыносяць нашым агародам вялізарную шкоду?

Розныя караеды, доўганосікі, хрушчы і г. д. у большай ці меншай ступені шкодзяць нашым садам, гаям і лясам. Усе яны да таго маленькія, што змагацца з імі надзвычайна трудна. На ваўкоў ці мядзьведзяў, якія крадуць у нас скаціну, можна выйсьці са стрэльбай ці зрабіць аблаву, а вось з слабымі вусенямі, якіх на невялічкім кавалачку зямлі тысячы—ніяк ня справішся. І каб не дармовыя вартаўнікі, якіх таксама тысячы—розныя шкоднікі даўно-б зьнішчылі ўсе нашыя пасевы, сады і агароды.

### Армія дармовых вартаўнікоў.

Аднак, хто ж гэтыя дармовыя вартаўнікі? Я думаю, вы і самі здагадаліся, што гэта—птушкі. Мошак зьнішчаюць розныя мошкаедныя птушкі (сініцы, шпакі, гарыхвосткі, мухалоўкі, ластаўкі і інш.), а дробных грызуноў—драпежныя птушкі: сава, каршун, сыч.

Кожны, мусіць, чытаў апавяданьні аб ружовых шпаках. Калі саранча ўзьлятае з месца і, шукаючы яды, ляціць на хлебныя палеткі, дык супроць яе амаль нічога ня можна зрабіць. Саранча часта так шматліка, што ляціць нібы чорная хмара, закрываючы палову неба. І вось тут, у ролі абаронцы, зьяўляюцца ружовыя шпакі, якія ляцяць за саранчою цэлымі чародамі і зьнішчаюць яе.

А вось падлік таго, якую карысьць прыносяць сава і гарыхвостка (падлік зроблены юнымі натуралістымі).

Адна сава ў суткі зьядае ня менш 5-ці мышэй: у месяцгэта будзе 150 штук, за



6 месяцаў—900 мышэй. Калі-б гэтыя мышы жылі і пладзіліся, дык за такі час (лета) іх разьвялося-б вельмі шмат.

Гарыхвосткі прылятаюць к сваім дзецям прыблізна раз у кожныя тры хвіліны. Кожны раз на яду яны прыносяць па аднэй кузурцы. У адну гадзіну гэта

дасьць 20 кузурак, а ў летні дзень (18 гадзін)—360 штук. Сваіх дзяцей гарыхвосткі кормяць тыдні два; значыць, за гэты час яны зьнішчаць 5.040 розных мошак!

Ня цяжка было-б падлічыць карысьць, якую прыносяць і іншыя птушкі, але, мне здаецца, пакуль што досыць і гэтых двох прыкладаў.

З усяго таго, што гаварылася вышэй, можна зрабіць наступны вывад: птушкі, асабліва мошкаедныя і дробныя драпежныя (тыя, што ядуць малых зьвяркоў), заслугоўваюць усякай аховы і абароны іх з боку чалавека. Гэта здаецца такім простым і зразумелым. Аднак, гэта ня ўсім зразумела. Шмат і шмат піонэраў ня хочуць гэтага зразумець. З „рагаткамі“, каменьнямі, стрэлкамі яны займаюцца паляваньнем на гэтых нашых пярнатых сяброў. А колькі дзецьмі разбураецца за лета птушыных гнёзд—трудна і падлічыць.

### Будзем ахоўваць і прывабліваць птушак.

Вось лёзунг, які павінны выкінуць усе сьвядомыя дзеці, тым болей піонэры. Ахоўваць птушак, вабіць іх у нашы сады і лясы, клапаціцца аб іх разьвядзеньні,—вось чым павінны заняцца піонэры, юныя натуралістыя і ўсе сьвядомыя дзеці.

Аднак, чым можна дапамагчы птушкам? Лепш за ўсё няхай аб гэтым скажуць самі піонэры. Наш дзяткор В. Паняў піша:

„Пры нашым атрадзе з'арганізаваўся гурток па ахове птушак, які вельмі добра працуе. Наша праца заключаецца ў тым, што мы зімою зрабілі кармушкі для птушак, а ў лютым месяцы вывесілі ў школьным садзе 5 шпакоўніц і 5 іншых хатак для птушак. Сябрамі нашага гуртка зьяўляюцца 9 піонэраў і 2 непіонэры“.

А вось другі дзяткор, Ліда Каралёва, піша:

„Савет атраду запрасіў да нас на гутарку кіраўніка юных натуралістых. На гутарку зьявіліся ўсе. Кіраўнік расказаў нам аб карысьці птушак і растлумачыў, як трэба рабіць дуплянкі і шпакоўніцы...

Пасьля гутаркі піонэры ўсім атрадам узяліся за пабудову птушыных хатак і разьвешваюць іх у садох і г. д.“

Вывад ясны. Прыняўшы пад увагу вялізарную карысьць птушак, мы павінны сказаць: „Піонэр, прываблівай і ахоўвай птушак—лепшых памоцнікаў у працы селяніна!“.

**М. Сонцаў.**



# НАША МАЁЎКА.

**П'еса-гульня ў 1 дзеі.**

Хто прымае ўдзел:

ПАВАДЫР АТРАДА *(слухач у радыё-будцы).*
ЛЯТУН—14 гадоў.
ВАРТАЎНІК радыё-будкі.
ШПІЁН—14 гадоў.
ТОМ—дэлегат дзіц. комгруп Ангельшчыны, 14 г.
ЧЫО-ЧАН—дэлегат-піонэр Кітая.
АРАБІ—дэлегат Індыі, 14 г.
Дэлегаты дзіцячых комгруп: Амэрыкі, Нямеччыны, Францыі.
ПІОНЭРЫ—звяно „КІМ" і „Самалёт" *(па 6 чал.).*
РУПАР *(праз яго падаецца мужчынскі голас).*

**Як паставіць п'еску.**

Дзея адбываецца на дварэ, у полі (калі ў горадзе—на пляцы дзе-небудзь). На гэтым месцы трэба зрабіць будку (з кардону, або парожных скрынак для радыё-станцыі. Ля будкі ўбіць высокі кол (мачта). У сьцяне будкі прымацаваць рупар з кардону. На будцы наклеіць подпіс: „Пост-клюб юных піонэраў—зьвеньняў „КІМ" і „Самалёт". Недалёка ад будкі паставіць яшчэ некалькі калоў і на кожным прымацаваць подпіс: Амэрыка, Польшча і г. д. (колькі будзе дэлегацый, столькі трэба і калоў). Уся сцэна да пачатку дзеі зачынена занавесам, каб гэтым прыцягнуць большую ўвагу слухача, калі пачнецца дзея. Перад самым пачаткам трэба даць моцны стук, падобны сьвісту лятучага знарада, і ўсьлед другі стук, падобны ўзрыву знарада,—выканаць гэта можна на куску новай бляхі.

Зьява 1-я.

*(З-за будкі выбягае шпіён. Ён, як зьбянтэжаны, бегае, чагосьці шукае).*

Шпіён: Што за ліха... тут павінен быць пост... пост... па Чэмбэрлену *(глядзіць на вынятую з кішэні паперку)* павінен быць пост тут... здаецца, пост „КІМ"... *(Паварачваецца да публікі).* Ах... гэта яны тут... бальшавікі... вы бальшавікі... караул!.. *(Хаваецца бокам уздоўж заслоны).*

Зьява 2-я.

*(З-за заслоны выбягае вартаўнік-піонэр).*

Вартаўнік: Хто тут?.. а?..
Шпіён: Ах... *(Выбягае).*
Вартаўнік: Ага... стой... *(Сьвішча).* Шпіёна лавеце, шпіёна... *(Адчыняе заслону).*

Галасы за будкай: Ага... Лаві яго, лаві...

Вартаўнік *(сьвішча):* Вось забіяка... уцёк... Гэй, таварышы, сюды, сюды на дапамогу!..

Зьява 3-я.

*(Выбягае на пляцоўку 1-ы часавы).*

Часавы *(да павадыра, які ў гэты час слухае радыё-перадачу праз трубку):* Таварыш павадыр, нам пагражае небясьпека...

Вартаўнік *(таксама да павадыра):* Так... так, шпіён тут...

Павадыр *(на хвілінку адарваўшыся):* Трэба злавіць яго... *(Да трубкі).* Слухаю, так, ага...

Часавы: Лёгка сказаць—злавіць... Мы-ж зыйсьці з паста ня можам...

Павадыр: Не перашкаджайце слухаць...

Рупар *(гаворыць моцна):* Таварышы!..

Павадыр *(хутка бярэ трубку):* Слухаем. *(Да піонэраў).* Ціха... ціха... гаворыць наш лятун; ён у дарозе цяпер.

Рупар: Мы зараз будзем у вас. Я гавару ад імя дэлегатаў дзіцячых комгруп: Нямеччыны, Польшчы, Амэрыкі, Францыі, а дэлегаты іншых краін, на жаль, не маглі зьмясьціцца ў нашым самалёце. Бывайце!

Павадыр *(у трубку):* Пачакай, пачакай, Міколка...

Вартаўнік: А пра шпіёна ты й не сказаў яму нічога...

Павадыр: Зараз, зараз скажу.

Рупар: Я слухаю...

Павадыр: Міколка, нядаўна ў нас адбылося няпрыемнае здарэньне. Нашы вартаўнікі заўважылі шпіёна, ён прыляцеў з Амэрыкі. Цяпер уцёк.

Рупар: Ага... добра, прымем меры. *(Усе на сцэне скачуць, радуюцца, што прыедзе Міколка).*

Павадыр: Ціха, таварышы. Часавыя, на свае месцы, марш! Вартаўнік, трубі збор.

Зьява 4-я.

Вартаўнік: Тра-та-та...

Піонэры *(з публікі):* Што такое? Збор, збор... Гэй, таварышы, на збор!

Павадыр (*зьвяна „КІМ“; крычыць*): Кімаўцы ў зьвяно...

Павадыр (*зьвяна „Самалёт“*): Гэй, піонэры зьвяна „Самалёт“, жыва на збор... (*З публікі выходзяць піонэры, вартаўнік б'е ў барабан*).

Зьява 5-я.

(*Зьвеньні строяцца на пляцоўцы: справа— зьвяно „КІМ“, зьлева—„Самалёт“*).

Павадыры (*зьвеньняў „КІМ“ і „Самалёт“ да павадыра атраду*): Мы гатовы, таварыш павадыр.

Павадыр (*сьвішча, усе сьціхлі*): Будзь гатоў!

Зьвеньні: Заўжды гатовы!

Павадыр: Таварышы! буржуазія хоча сарваць нашу міжнародную маёўку. Мы гэта толькі што мелі магчымасьць бачыць... Сюды да нас быў падасланы шпіён. Яго трэба абавязкова злавіць. Зразумелі?

Піонэры (*моцна*): Зразумелі, зразумелі!..

(*Павадыры зьвеньняў падаюць каманду сваім звеньням і выходзяць за пляцоўку, некаторыя піонэры крычаць: Мы знойдзем, знойдзем яго...*).

*Недалёка чуваць гукі падляцеўшага самалёта (можна зрабіць знарочыстую трашчотку, гукі якой будуць падобны да гукаў самалёта).*

Павадыр: Эгэ.. Лятун наш...

Вартаўнік: Вось дык сьвята будзе. Эх! і адсьвяткуем-жа ўсе разам!

(*Гукі матора сьціхлі, за будкай шум, сьмех, крыкі*).

Вартаўнік: Тра-та-та.

(*Калі маецца оркестр, можна сыграць марш*).

Зьява 6-я.

(*Убягае лятун, за ім некалькі піонэраў*).

Некалькі галасоў: Міколка! Міколка прыляцеў...

Лятун (*робіць салют*): Брава... брава...

Піонэры: Ура! брава Міколку!..

Лятун: Няхай жыве міжнародная арганізацыя дзіцячых комуністычных груп!

Піонэры: Ура! Ура!!. (*падбягаюць да лятуна, падкідаюць яго на руках; за палаткай у гэты час чуецца шум, крыкі*).

Павадыр (*крычыць*): Што такое там?

Галасы (*з-за палаткі*): Шпіёна злавілі, шпіёна...

Піонэры (*з пляцоўкі*): Дзе ён, дзе? Сюды яго давайце.

Павадыр (*да піонэраў*): Цішэй, таварышы, шпіёна вядуць...

Зьява 7-я.

(*Некалькі піонэраў вядуць шпіёна, ён упіраецца, ня хоча ісьці*).

Шпіён: Як вы асьмеліліся мяне лавіць...

Лятун: Давай, давай яго сюды.

Шпіён: Хто вы такія, па якому праву... Я па даручэньню самога Чэмбэрлена ў штаб КІМ'а....

*Піонэры сьмяюцца.*

Павадыр: Ага... вы па адрасу папалі... Тут і ёсьць пост-клюб першамайскі зьвяна „КІМ“.

Піонэры: Ха-ха-ха... Па даручэньню Чэмбэрлена, кажаш, вось дык папаў...

Лятун: Таварышы, цішэй. Я спатыкаў яго там, у Ангельшчыне, на сходзе дзіцячай комгрупы. Ты быў там на сходзе?

Шпіён (*у бок*): Вось папаўся... (*Да піонэраў*). Ну, чаго вы ад мяне хочаце, я нічога, ніякага, ані-ні ня ведаю...

Лятун: Зараз мы даведаемся, што гэта за ягада. (*Да піонэраў*). Таварышы, прывядзеце з самалёта дэлегата Англіі.

Піонэры (*двох*): Зараз, зараз. (*Выбягаюць за дэлегатам*).

*На палцы з надпісамі „Англія“ хутка падвесіць пры дапамозе вяроўкі плякат—Комгрупа 3.000 дзяцей.*

Лятун (*да піонэраў*): Слухайце, таварышы, а вам раскажу пра яго... ён прадаўся фашыстым...

Шпіён (*заткнуў вушы*): Годзе годзе... Я ня шпіён, я не фашыст... Я, я—вушы Чэмбэрлена... Я маю ад яго мандат...

Піонэры: Ха-ха-ха, вось дык ягада. Доўгія вушы твае...

Павадыр: Ну, доўгія вушы, кажы нам праўду, чаго ты папаў сюды?

Шпіён (*хапаючыся за вушы*): У мяне вушы ня доўгія... гэта ў Чэмбэрлена...

Лятун: Ну, ну, без перагавораў, а то зараз і цябе і твайго Чэмбэрлена да сьценкі на пяць гадоў пад растрэл. Зразумеў?

Шпіён (*спаважна*): Ага... зразумеў...

Зьява 8-я.

*(Піонэры ўносяць у кулі саломы дэлегата Англіі, разьвязваюць куль).*

Лятун *(да павадыра)*: Таварыш павадыр, будзьце знаёмы,—тав. Том—дэлегат Англіі. Контрабандай прывёз ..

Павадыр *(да Тома)*: Тав. Том, пост атрада „КІМ“ вітае вас і маладых комунараў Англіі з днём першага мая. *(Паказвае на надпіс на калу)*. Няхай жыве міжнародны саюз пролетарыяту ў дзень першага мая!

Том *(выступаючы)*: Няхай жыве „КІМ“!

Шпіён: І Чэмбэр-р... *(Том зачыняе яму рот)*.

Том: Хто? Таварышы, няўжо і вы паважаеце Чэмбэрлена?..

Піонэры: Ха-ха-ха... Не, ня мы, а шпіён... Гэта вушы Чэмбэрлена... Мы злавілі яго...

Том *(шпіёну)*: А... мілы мой... я цябе дзесьці ў Англіі бачыў...

Шпіён *(гнецца і хаваецца)*: Ня можа быць...

Лятун: Супакойся, Том, Англіі ён болей ня ўбачыць, як сваіх вушэй...

Том: Дык ён шпіён... Дазвольце вам задаць пытаньне? *(Сьпявае)*: Аб чым прасіў вас Чэмбэрлен? *(На мотыў „О чем толкует нам эсэр“)*.

Шпіён: Прасіў не пападацца к вам...

Усе сьпяваюць: Ага.. чумчара, ура, іха-ха-ха...

Павадыр: Годзе, зразумела... Таварышы, запрасеце сюды дэлегатаў іншых краін.

Піонэры: Зараз... Ай-да... *(Бягуць, а з імі і лятун)*.

Зьява 9-я.

*(Піонэры і лятун выкочваюць на пляцоўку бочку)*.

Галасы: Гэй, таварышы, дарогу. Дэлегаты едуць.

Лятун: Таварыш павадыр, прыехалі дэлегаты Індыі і Кітая. *(Ставіць бочку дном на пляцоўцы)*.

Павадыр: Калі ласка, калі ласка, таварышы, да нас на маёўку...

*(Першым вылазіць Чыо-Чан)*.

Чыо-Чан: Маё прывітаньне вам ад дзяцей рабочых і сялян Кітая... *(Паказвае ў бок кала, на якім у гэты час узьвіваецца плякат з надпісам—2.000 піонэраў)*.

Лятун: А вось і тав. Арабі *(Выпіхае Арабі з бочкі, а сам выходзіць)*.

Чыо-Чан *(да Арабі)*: Гэта сусед мой. Таксама любіць сонца, людзей і свабоду,—Арабі з Індыі. *(На калу Індыі ўзьвіваецца плякат 1.500 піонэраў)*.

Арабі: Няхай жыве сонца. Няхай жыве сьвята першае мая!

Галасы: Няхай жывуць дэлегаты. Прывітаньне нашым таварышом.

Павадыр: Няхай жыве сусьветны саюз дзіцячых комгруп.

Усе: Ура! Ура! *(Воплескі, усе даюць дарогу дэлегатам, вартаўнік іграе сыгнал)*.

Зьява 10-я.

*(Уваходзіць лятун і абвяшчае)*:

— Дэлегат Нарвэгіі ..

*(На калу ўзьвіваецца плякат 5.000 піонэраў)*.

Дэлегат Нарвэгіі аддае салют.

Вартаўнік *(іграе)*.

*За дэлегатам Нарвэгіі выходзяць па чарзе: дэлегат Францыі (на плякаце надпіс—3.000 чал.), дэлегат Нямеччыны (14.000 чал.), дэлегат Амэрыкі (2.500 ч.), дэлегат Фінляндыі (10.000 чал.), дэлегат Швэцыі (1.500 чал.). Выхад кожнага дэлегата адзначаецца салютам як з боку дэлегата, так і піонэраў і іграньнем сыгналу, як і выхад першых дэлегатаў.*

Лятун *(пасьля выхаду апошняга дэлегата, апавяшчае)*: На міжнароднае пролетарскае сьвята сабраліся дэлегаты ад 42.000 тысяч дзяцей комуністычных груп усяго сьвету.

Усе: Ура!.. Ура!..

Павадыр: Няхай жыве пролетарыят усяго сьвету!

Усе: Ура!.. Ура!..

Лятун: Няхай жыве ўлада Саветаў.

Усе: Ура!.. Ура!..

Павадыр: Няхай жыве міжнароднае сьвята першае мая!

Піонэры *(колектыўна дэклямуюць)*: Няхай жыве міжнародны май!

Усе *(хорам сьпяваюць „Першамайскую песенку“ на мотыў „По улицам ходила большая крокодила“)*.

У рэспубліцы Савецкай,  
Ліхой і маладзецкай,  
Рабочы май,  
Таварыш спатыкай!

Мы поўны сьвежай сілы,
Пад майскім небасхілам,
Ідзём, расьцём
І радасна пяём.

Вясёлы май, ты з намі,
Ўзьнімай-жа сьцяг над намі,
І хай наш край
Цьвіце, як май!

З ь я в а 11-я.

*(Шпіён выскаквае да публікі).*

Л я т у н: Стой... Таварышы... (*Усе сьціхлі*). Гэй, трымайце яго...

П і о н э р ы *(некаторыя бягуць за шпіёнам, ловяць яго сярод публікі)*: А-а... папаўся... Не, брат, не ўцячэш... бачыш яго...

Л я т у н: Стой, стой даражэнькі, куды-ж ты ўцячэш? А ну, ідзі сюды... Кантрабандай будзеш...

П і о н э р ы (*з пляцоўкі*): У бочку яго засадзіць... Ха-ха-ха...

Ш п і ё н *(ля пляцоўкі)*: Таварышы, пусьцеце, я тут нічога нікому ніякага... пусьцеце...

П а в а д ы р: Ведаем мы цябе... Дайце хутчэй бочку...

З ь я в а 12-ая.

*(Піонэры выкачваюць бочку).*

П і о н э р ы: Ха-ха-ха... вось дык кантрабанда... Ну, лезь сюды...

Ш п і ё н *(ля бочкі)*: Я, я нічога нікому ніякага... Таварышы, я... ваш...

Л я т у н: Ну, жыва, лезь, у Англію адтарабаню цябе...

Ш п і ё н *(з радасьцю)*: у Англію... ну, няўжо гэта ты праўду кажаш?

Л я т у н: Праўду, праўду, тут цябе такога асла з чэмбэрленаўскімі доўгімі вушамі не патрэбна *(падсаджвае яго)*.

*У гэты час чуецца гул, падобны гулу самалёта.*

П а в а д ы р: Паехалі...Давайце на разьвітаньне, сябры, ім песенку сьпяём. *(Запявае)*:

У міжнародны першамай,
Чэмбэрлен, нам не мяшай...

У с е: Жура-жура журавель
Журавелька малады *(два разы)*.

П а в а д ы р: Адпраўляем мы сяброў
Лавіць ў небе жураўлёў...

У с е: Жура-жура журавель і г. д.

*Дэлегаты бяруць калы з плякатамі і ідуць на пляцоўку.*

П а в а д ы р *(сьпявае)*:
Сабіраюцца палкі
Галстукаў чырвоных...

У с е: Жура-жура журавель і г. д.

П а в а д ы р: Хутка будзе ва ўсім сьвеце
Многа нас мільёнаў...

У с е: Жура-жура журавель і г. д.

*У гэты час на калу паста „КІМ“ узьвіваецца плякат: 2.100.000 юных піонэраў і акцябрат ва ўсім сьвеце.*

У с е: Узьвівайся сьцяг чырвоны,
Аб'яднай усіх працоўных...

Эх, жура-жура журавель,
Журавелька малады.

Жура-жура журавель,
Журавелька малады.

*Канец.*

*(Вольны пераклад з расійскага).*

*Увага*: Пажадана, каб дзеючыя асобы па скончэньні п'ескі заставаліся на пляцоўцы з такім разьлікам, каб даць месца для выступленьня гуртка фізкультуры (калі такі маецца) або хора, ці проста правесьці гульні і г. д.

Пасьля п'ескі і гульняў атрад можа выйсьці разам з усёй публікай, з плякатамі на вуліцу і наладзіць дэмонстрацыю, прыцягваючы ў яе ўсіх неорганізаваных дзяцей. Дэмонстрацыю і самы выхад трэба правесьці жыва, з настроем, весела,—гэта яшчэ больш зацікавіць усіх дзяцей.

Некаторыя месцы ў п'есцы (асабліва масавыя сцэнкі, выкрыкі) могуць дапаўняцца самімі ўдзельнікамі, бо з-за адсутнасьці месца некаторыя моманты п'ескі дадзены зусім скарочана.

**Рэдакцыя.**

# МАРС—СТАРЭЙШЫ БРАТ ЗЯМЛІ.

Даўно ўжо вучоныя з вялікай цікавасьцю сачылі за Марсам, будавалі розныя тэорыі і дагадкі аб гэтай плянэце.

Плянэта Марс—наша суседка і круціцца разам з зямлёю навакол сонца. Марс рухаецца спаважней, чым зямля, і блізка




*Арбіты (колы), па якіх верцяцца Марс і зямля вакол сонца. Зьлева Марс блізка ад зямлі.*

падыходзіць да зямлі адзін раз у два гады і два месяцы.

Але чаму-ж Марс выклікае ў нас такую цікавасьць? Тлумачыцца гэта ня тым, што Марс блізка ад зямлі, а тым, што ў нас ёсьць здагадкі аб насельніках Марса.

50 гадоў назад вядомы італьлянскі вучоны Скіапарэлі, разглядаючы Марс у тэлескоп, знайшоў на ім жоўтыя і сінія плямы, на канцавосьсях белыя плямы, накшталт нашых палярных сьнягоў і лёду. Палярныя плямы мяняюцца ў памеры, а буйныя часткі плянэты мяняюць свой колер ад жоўтага да сіняга адценьняў. Вучоныя лічаць жоўтыя часткі зямлёй, а сінія—марамі.

Узімку лёд захоплівае дзьве трэці ўсяе плошчы зямлі, але з вясны цёмныя плямы вызваляюцца з-пад лёду, а потым зелянеюць, пакрысе пераходзячы да зелені палёў, лясоў і лугоў.

Гэта бывае і ў нас на зямлі з году ў год. Але тое-ж самае бачым мы і на Марсе. Гэта даводзіць нам, што Марс, бязумоўна, жыве нейкім сваім, невядомым для нас, жыцьцём.

Стварыўшы вялікае ўражаньне сваімі назіраньнямі, Скіапарэлі выкрыў таксама, што на Марсе існуюць канавы, якія злучаюць між сабой сінятыя плямы (мора) плянэты.

Усё гэта разам узятае ў шмат разоў павялічыла цікавасьць да Марса і выклікала думку, каб утварыць зносіны з яго насельніцтвам, бо прысутнасьць канаваў сьведчыць аб тым, што на Марсе існуе высокая культура болей разьвітага жыцьця, чым у нас на зямлі. Была думка паслаць на Марс сыгналы пры дапамозе пражэктараў ці радыё-хваль, якая пакуль што не ажыцьцявілася.

Назіраньні над плянэтаю паказалі, што канавы лепш за ўсё відаць тады, калі на Марсе бывае вясновая пара, і зьнікаюць узімку. А так як на Марсе яны займаюць вялікую плошчу, вучоныя думалі, што гэта лясы ці ажываючыя ў весну расьліны. Але потым выкрылася, што гэта ня роўныя стужкі, а плямачкі, мабыць, горы на Марсе. Вучоныя дапушчаюць, што паверхня Марса мае пустынны характар. Вільгаці на плянэце вельмі мала. Сонца там сьвеціць цэльны дзень без перапынку, і паветра настолькі рэдкае, што мы-б там не маглі ім дыхаць.



*Лініямі абазначаны канавы на Марсе.*

Зімой на Марсе бывае холад у шмат разоў мацнейшы, чым на зямлі. Мабыць, калі і ёсьць на Марсе жывыя істоты, дык яны вельмі адрозьніваюцца ад істотаў нашай зямлі. Дасканальных-жа вестак аб гэтым пакуль што няма.

1-ая Дзярж. друкарня Заказ № 1936

Галоўлітбел № 25270

# ПАДУМАЙ.

### Цікавая задача №1.

*(С. Шыёнак).*

Якую форму павінна мець цела, каб яно магло прайсьці праз 3 дзіркі гэткай формы: круглую, квадратовую і ў форме роўнабочнага трыкутніка?

Пры гэтым знойдзенае вамі цела павінна закрываць сабой шчыльна ўсе гэтыя дзіркі.

Увага: вышыня трыкутніка, бок квадрата і дыямэтр круга аднолькавай даўжыні?










### Задачка № 1.

Да якога крыку дзіцяці трэба дадаць назву месяца, каб атрымаць імя вядомага з гісторыі татарскага ваяводы.

## Жарты.

### Незамянімы.

Настаўнік: Чаму ты, Верабей, так спазьніўся?

Вучань: Я быў патрэбен бацьку.

Настаўнік: Ці-ж ня мог ён заняніць цябе кім-небудзь?

Вучань: О, не, дзядзька настаўнік, бачыце, ён лупцаваў мяне.

### У мастака.

Кабета (да мастака): Я хацела-б мець партрэт майго сына вашай работы; але-ж сын цяпер якраз хворы і ня можа прыехаць сам да вас, вось загэтым-та можа намалюеце яго партрэт са слоў?

Мастак: Выбачайце, кабеціна: з аслоў я не малюю партрэтаў.